# Паліцэйская акцыя ў Менску

**У сераду, 4 студзеня, каля 12-й гадзіны ў Менску была праведзеная жорсткая паліцэйская акцыя: чатыры ўзводы амонаўцаў пад кіраўніцтвам падпалкоўніка Французава напалі на групу людзей, якія сабраліся перад Домам ураду з патрабаваньнямі свабоды друку.**

Падпісчыкі нашай газэты, правы якіх парушыла адміністрацыя прэзыдэнта, забараніўшы друкаваньне СВАБОДЫ, прыйшлі пад вокны кабінэта Лукашэнкі, каб выказаць свой пратэст і запатрабаваць ад прэзыдэнта спыніць парушэньне канстытуцыйных правоў.

«Прыкладна праз гадзіну да пікета падышоў палкоўнік міліцыі і прапанаваў вылучыць трох прадстаўнікоў, якіх прымуць у адміністрацыі прэзыдэнта, — расказвае дацэнт Мікола Анцыповіч. — Мы пагадзіліся. Разам з прафэсарам Савіцкім і яшчэ адной жанчынай (работніцай завода) мы пайшлі ў Дом ураду. Аднак далей фае нас не пусьцілі. Праседзеўшы ў чаканьні 10—15 хвілін, мы выйшлі на вуліцу і пабачылі, што ўжо прыехала некалькі аўтобусаў амонаўцаў і яны разганяюць людзей».

«Я праходзіў каля падпалкоўніка і пачуў, як ён па рацыі загадаў схапіць некалькі чалавек, — распавядае прафэсар Мікола Савіцкі. — Я кажу яму: што вы робіце, вы ж правакуеце людзей! Ён падскочыў да мяне і прафэсійным прыёмам закруціў руку, а потым сказаў у рацыю: «Двое, ко мне!» З аўтобуса выскачылі некалькі амонаўцаў, і ён загадаў ім: «В машину его!» Амонаўцы паваліілі мяне на зямлю і пацягнулі ў аўтобус. Я толькі чуў, як нейкая жанчына крычала: «Гэта ж прафэсар! Што вы робіце!» У аўтобусе мяне кінулі долу і прыціснулі ўніз галавой. Я пачаў крычаць. Тады адзін зь іх схапіў маю шапку і стаў біць мяне нібы баксёрскай пальчаткаю...»

60-гадовага прафэсара Беларускага эканамічнага ўнівэрсытэту М.Савіцкага завезьлі спачатку ў Маскоўскі РАУС, потым у бальніцу (ён запатрабаваў зьняць пабоі), а адтуль павезьлі ў суд Маскоўскага раёну. Там ужо падрыхтаваліся да прыёму «злачынцы». Напагатове быў судзьдзя А.Ванькові (дарэчы, таксама былы міліцыянт), які па сфабрыкаваных матар'ялах прысудзіў прафэсару 5 сутак арышту. Міколу Савіцкага адразу завезьлі ў гарадзкі спэцразьмеркавальнік і пасадзілі ў камэру.

Позна ўвечары рэдакцыя СВАБОДЫ атрымала інфармацыю, што прафэсар Савіцкі знаходзіцца пад арыштам. Раніцай наступнага дня я паехаў у суд, дзе пазнаёміўся са справаю Савіцкага. Дастаткова было пачытаць рапарты міліцыянтаў, а таксама іхныя сьведчаньні ў судзе, каб пераканацца, што ўсе абвінавачваньні супраць М.Савіцкага — грубая і прымітыўная фальсіфікацыя. Прафэсара абвінавацілі ў тым, што ён нібыта «оскорбил подполковника Французова и оказал сопротивление работникам милиции». Аднак нават у гэтых сфабрыкаваных паперах столькі супярэчнасьцяў, што любы больш-менш адукаваны і аб'ектыўны судзьдзя павінен быў вярнуць паперы фальсыфікатарам і адпусьціць спадара Савіцкага на волю. Але гэтага не адбылося. Чаму? Як сказаў мне адзін дасьведчаны чалавек, «суду загадалі — суд выканаў».

Між тым, кожны павінен разумець, што ўжо даўно мінуў час гэтак званай калектыўнай адказнасьці. Таму запішам імёны вядомых нам дзейных асобаў гэтай паліцэйскай акцыі і судзілішча:

А.Французаў — падпалкоўнік, начальнік штаба АМОН пры МУС РБ;

Я.Зароўскі і В.Аніська — старшыя сяржанты 5-га ўзводу АМОН (менавіта яны ўчынілі гвалт над прафэсарам і выступалі ў якасьці сьведкаў падчас судзілішча);

А.Ванькові — судзьдзя народнага суда Маскоўскага раёну г.Менска.

У Міколы Савіцкага быў толькі адзін сродак пратэсту супраць незаконнага затрыманьня і арышту — галадоўка. Ён аб'явіў яе адразу, як яго прывезьлі ў пастарунак, а потым зрабіў наконт гэтага пісьмовую заяву начальніку спэцразьмеркавальніка. Прафэсара трымалі ў камэры на 4-х чалавек разам з крымінальнай публікаю. Ён знаходзіўся за кратамі роўна двое сутак, пасьля чаго рашэньнем гарадзкога суда, які перагледзеў гэтую сфабрыкаваную справу, быў выпушчаны на волю.

На жаль, мы ня маем здымкаў гэтай паліцэйскай акцыі, бо на той момант ужо ўсе фота- і тэлерэпартэры разышліся. Напэўна, улады якраз гэтага і чакалі. Аднак яны ўсё адно аскандаліліся, бо факт застаецца фактам: на кожнага зь пікетчыкаў кінулі прыкладна па 5—7 амонаўцаў, быў зьбіты і заарыштаваны прафэсар, якому 4 лютага споўніцца 61 год... Слава Лукашэнку! Ура савецкай міліцыі!

А вы, шаноўныя грамадзяне, не зьдзіўляйцеся, што міліцыя не праяўляе гэткага ж спрыту, калі на вас нападаюць злачынцы. У нашых «ахоўнікаў парадку» ёсьць больш важныя справы. Трэба ведаць, у якой дзяржаве мы жывем.

**Ігар ГЕРМЯНЧУК**

> ПОЛИЦЕЙСКОЕ ГОСУДАРСТВО — метафорическая характеристика политического режима стран, где практикуется подавление оппозиции методами политического насилия, слежки и сыска, систематически применяемого силами охраны государственного и общественного порядка, т.е. открытой и тайной полицией. П.г. отличается строгой регламентацией частной и публичной жизни граждан (контроль за местопребыванием, передвижением, поведением граждан), массовым нарушением тайны переписки, подслушиванием телефонных разговоров, встреч и бесед, систематическим ведением досье на явных и потенциальных участников оппозиционных действий, на деятелей, воздерживающихся от демонстрации преданности режиму. П.г. — одна из разновидностей тоталитарных режимов, в которых активность «сил порядка» намеренно демонстрируется правящими группами.
>
> *(Политология. Энциклопедический словарь. Москва, 1993 г.)*

**На здымках: падпісчыкі газэты СВАБОДА перад вокнамі адміністрацыі прэзыдэнта патрабуюць свабоды друку; прафэсар Мікола Савіцкі на другі дзень пасьля вяртаньня на волю.**

## ЗША заклікаюць кіраўніцтва Беларусі паважаць свабоду друку

**У заяве, распаўсюджанай 30 сьнежня, Дзяржд эпартамэнт ЗША заклікае Беларусь не парушаць права на свабоду друку. У афіцыйным дакуманце гаворыцца:**

Некалькі беларускіх газэтаў паспрабавалі апублікаваць тэкст дакладу, падрыхтаванага членам беларускага парляманту, у якім некаторыя высокапастаўленыя прадстаўнікі адміністрацыі Лукашэнкі абвінавачваліся ў карупцыі. Газэты выйшлі зь белымі плямамі на тым месцы, дзе яны зьбіраліся надрукаваць тэкст дакладу.

Мы выказваем заклапочанасьць любой цэнзурай у друку. Свабода і адсутнасьць абмежаваньняў у дзейнасьці сродкаў масавай інфармацыі зьяўляюцца асновай дэмакратыі і служаць сродкам мірнага сацыяльнага разьвіцьця. Прэса таксама зьяўляецца сродкам асьветы выбаршчыкаў і выказваньня думак па надзённых пытаньнях.

Злучаныя Штаты заклікаюць урад Беларусі паважаць права прэсы на свабоду выказваньня думак у адпаведнасьці зь міжнароднымі пагадненьнямі, такімі як Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека і Гельсінскія пагадненьні, а таксама ў адпаведнасьці зь беларускай Канстытуцыяй.

Мы заклікаем Беларусь працягваць прымаць і замацоўваць меры, накіраваныя на дэмакратызацыю і эканамічныя рэформы. Свабода друку зьяўляецца важным кампанэнтам гэтага працэсу.

## Саюз журналістаў папярэджвае: вяртаецца дыктатура

**«На зьмену партыйнаму дыктату прыйшла яшчэ больш жорсткая прэзыдэнцкая цэнзура», — так расцэньвае апошнія падзеі Саюз журналістаў Беларусі.**

У Звароце Саюзу журналістаў да міжнародных журналісцкіх арганізацыяў адзначаецца: «Пад жорсткім кантролем адміністрацыі прэзыдэнта знаходзіцца найбуйнейшая ў рэспубліцы паліграфічная база — Беларускі Дом друку. Дастаткова аднаго званка ад каманды прэзыдэнта, якую ён падабраў па прынцыпе адданасьці яму, — і друкаваньне любой газэты імгненна перапыняецца. Па распараджэньні прэзыдэнта адмовілі ў праве друку незалежным газэтам «Свабода», «Фемида», «Белорусская деловая газета» і іншым выданьням. Гэта грубае парушэньне канстытуцыйнага права чалавека на свабоднае атрыманьне інфармацыі, праява таталітарызму і дыктатарства.

Трывожна і небясьпечна, што ўсё гэта ідзе ад першага прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь, у добрыя намеры якога паверылі многія людзі, якія выбралі яго на гэтую пасаду. Цяпер, многае страціўшы, даведзеныя да жабрацтва і адчаю, людзі пазбаўляюцца магчымасьці атрымліваць аб'ектыўную інфармацыю».

## БСДГ пра «галоўнага цэнзара»

**Выканаўчы камітэт Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады 5 студзеня прыняў Заяву ў абарону свабоды друку.**

Сацыял-дэмакраты лічаць, што ініцыятарам ганебных цэнзурных забаронаў зьяўляецца прэзыдэнт Лукашэнка, які «выступаючы на сустрэчы зь лідарамі маладзёжных арганізацыяў Беларусі, адкрыта заявіў, што толькі ён сам можа забараніць друкаваньне газэты».

«Прэзыдэнт баіцца праўды пра карупцыю ў ягоным атачэньні. Ён гатовы закрыць рот кожнаму, хто крытыкуе некампэтэнтнасьць і дылетанцтва ягонай каманды», — гаворыцца ў Заяве БСДГ.

**Да ўвагі рэкламадаўцаў**

Кошты рэклямнай плошчы:

1 см² — 12 000 руб.

на 1-й паласе — 18 000 руб./см²

на апошняй — 14 000 руб./см²

**Зьвяртайцеся ў рэдакцыю СВАБОДЫ**

**тэл/факс 36.-24-41**



© PDF: Kamunikat.org 2010
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

# Рэйтынг прэзыдэнта ў Берасьці падае

**Сацыялягічная група «Шчырасьць» на замову газэты «Брестский курьер» правяла апытаньне сярод жыхароў Берасьця.**

Рэспандэнтам было прапанавана ацаніць дзейнасьць прэзыдэнта Лукашэнкі. Вынікі дасьледаваньня паказалі, што рэйтынг Лукашэнкі ўпаў амаль у 2 разы ў параўнаньні з папярэднім апытаньнем, якое праводзілася пасьля 100 дзён прэзыдэнтавага кіраваньня.

У кастрычніку дзейнасьць прэзыдэнта поўнасьцю ці з пэўнымі агаворкамі падтрымлівалі 46,4% апытаных, а ў канцы года — толькі 26%. Прычым толькі 6% (раней такіх было 12%) заявілі, што яны ва ўсім падтрымліваюць Лукашэнку. Тымчасам 52% апытаных поўнасьцю ці з агаворкамі не падтрымліваюць прэзыдэнцкія дзеяньні. Толькі 16% спадзяюцца, што ў новым годзе узровень іхнага жыцьця хоць троху палепшыцца, а 62% чакаюць далейшага пагаршэньня жыцьця.

Сваю пазыцыю наконт прызначэньня старшынём Берасьцейскага аблвыканкаму Ул.Заламая берасьцейцы выказвалі вельмі асьцярожна. 72% лічаць, што пакуль рана рабіць высновы, або кажуць, што ім цяжка вызначыць сваё стаўленьне да яго. 6% катэгарычна адмоўна паставіліся да гэтага прызначэньня. Такім чынам, сп.Заламай, якога прэзыдэнт назваў любімым лідарам Берасьцейшчыны, у вачах саміх берасьцейцаў кумірам зусім не выглядае.

**Ігар БАРАНОЎСКІ**

# У Віцебску публічныя віншаваньні забараняюцца

**2 студзеня ў Віцебску мясцовая Рада БНФ выставіла пікет на пляцы Свабоды ў цэнтры горада.**

Пікетчыкі трымалі плякат *«Віншуем усіх з выкананьнем на словах перадвыбарчых абяцаньняў прэзыдэнта Лукашэнкі: «запустить» да канца года ўсе прадпрыемствы, «остановить» рост цэнаў».* Прыкладна праз гадзіну да пікета пад'ехала міліцэйская машына. Ахоўнікі парадку загадалі «всем разойтись». Аднак разыходзіцца ніхто не сьпяшаўся, таму міліцыянты, прымяніўшы сілу, забралі плякат, а арганізатараў пікета Б.Хамайду і Ул.Плешчанку запіхнулі ў машыну і павезьлі ў пастарунак. Там на іх склалі пратакол за «парушэньне грамадзкага парадку», а потым адвезьлі ў суд, дзе іх аштрафавалі на 250 руб. кожнага.

**Яўген АЛАДКА**

# З агнём не жартуюць...

Старшыня віцебскай Рады БНФ Міхась Паўлаў зьвярнуўся ў Кастрычніцкі РАУС горада з заявай аб узбуджэньні крымінальнай справы супраць прадстаўнікоў віцебскай арганізацыі Славянскага сабору «Белая Русь», якія 26 лістапада 1994 г. публічна спалілі фігуру сьвятога Язафата Кунцэвіча.

На думку заяўцы, гэтая акцыя абражае ўсіх вернікаў-каталікоў і распальвае рэлігійную варожасьць.

**Ігар ЦІШКІН**

# Апазыцыя езьдзіла ў Баранавічы

**У мінулыя выходныя Баранавічы наведалі дэпутаты парляманцкай апазыцыі З.Пазьняк, Ю.Беленькі, намесьнік старшыні БНФ Ю.Хадыка і лідар Незалежнага прафсаюза Г.Быкаў.**

Госьці сустрэліся з жыхарамі горада ў цэнтральным Доме культуры, а таксама наведалі 5 вёсак Баранавіцкага раёну. Пасьля гэтых сустрэчаў у БНФ уступіла 140 чалавек.

У наступныя выходныя апазыцыя плянуе паехаць ў Ганцавіцкі раён.

**В.В.**

# Чым бы генэралы ня цешыліся...

**Апошнім часам у дзяржаўнай прэсе і на радыё ўсё часьцей зьяўляюцца заявы так званага «Патриотического движения», накіраваныя супраць Беларускага згуртаваньня вайскоўцаў.**

У сувязі з гэтым кіраўнік прэс-службы БЗВ Сяргей Чыслаў заявіў наступнае: «БЗВ спакойна ўспрымае, што два дзясяткі адстаўных генэралаў і палкоўнікаў глыбока пэнсійнага ўзросту (якія і складаюць усё гэта «движение») рэгулярна зьбіраюцца, каб прыняць чарговую грозную заяву з патрабаваньнем пакараць БЗВ. Гэта нават добра, што людзі, якія працаваць ужо ня могуць, а глядзець унукаў не жадаюць, знайшлі сабе хоць нейкі занятак. Праўда, дзіўна, што знаходзяцца сродкі масавай інфармацыі, якія сур'ёзна ўспрымаюць і тыражуюць гэтыя заявы. БЗВ не крыўдуе на адстаўных генэралаў і раіць грамадзянам нашай краіны папросту не зьвяртаць увагі на генэральскія фантазіі».

**Алесь ГУРЫНОВІЧ**

# Пагоня — гэта ня толькі дзяржаўны герб

**У мінулую пятніцу выйшаў 100-ы нумар гарадзенскай штотыднёвай газэты «Пагоня».**

З гэтай нагоды адбылася вечарына ў тэатры Тызэнгаўза, а пасьля — фуршэт, на які запрасілі усіх прысутных. Сёлета ў «Пагоні» істотна павялічылася колькасьць падпісчыкаў і адпаведна вырас наклад. Дарэчы, «Пагоня» першаю на Беларусі, яшчэ 23 сьнежня, надрукавала даклад Сяргея Антончыка.

**В.В.**

# Ахова змагаецца з фотакарэспандэнтамі

**Шматлікая ахова, якая паўсюль суправаджае Аляксандра Лукашэнку, атрымала баявое заданьне: не падпускаць да прэзыдэнта фотакарэспандэнта газэты СВАБОДА.**

Прэзыдэнт лічыць, што здымкі, якія друкуюцца ў нашай газэце, дыскрэдытуюць яго. Апошняй кропляй быў здымак «сьлёзы прэзыдэнта», апублікаваны ў 49-м (забароненым) нумары газэты СВАБОДА, на якім буйным плянам зьняты момант, як Лукашэнка плача на пасяджэньні парляманту.

Пасьля публікацыі гэтага здымку начальнік аховы прэзыдэнта заявіў нашаму фотакарэспандэнту, што ён ня мае права набліжацца да Лукашэнкі бліжэй чым на 30 мэтраў. Гэтая размова шэфа аховы з карэспандэнтам адбывалася на вачах дэпутатаў Вярхоўнага Савету 29 сьнежня. Ахоўнік загадаў фотакарэспандэнту не хадзіць у левы сэктар залі ВС, дзе сядзіць прэзыдэнт. *«Надо делать достойные снимки, тогда не будет претензий»*, — сказаў ён. Што значыць «достойные снимки» — ахоўнік не патлумачыў. Фотакарэспандэнт у сваю чаргу заявіў, што будзе рабіць такія здымкі, якія ён сам лічыць «достойными» з прафэсійнага боку.

У левы бок фотакарэспандэнта болей не дапускалі, але ён працягваў здымаць зь іншых пунктаў. Зноў падышоў ахоўнік: *«Прекращай снимать, или мы найдем способ тебя успокоить. Мы все офицеры, имеем боевое прошлое и знаем много методов... Вот тогда тебе не позавидуешь...»* — прыгразіў ён. Аднак фотакарэспандэнт працягваў рабіць здымкі.

У перапынку сэсіі, калі прэзыдэнт выйшаў у фае, фотакарэспандэнт накіраваў у ягоны бок аб'ектыў. Ахоўнік прыгразіў кулаком *(на здымку)* і затуліў сабою Лукашэнку. Потым ён і яшчэ адзін ахоўнік падскочылі да фотакарэспандэнта і прыціснулі яго да калёны: *«Мы же тебе сказали не снимать»*, — прашыпеў адзін зь іх і ўдарыў рацыяй ніжэй поясу. Фотакарэспандэнт кажа, што гэта было «ня вельмі балюча, але вельмі непрыемна».

Фотажурналісты і тэлерэпартэры, абмяркоўваючы між сабою жорсткія паводзіны аховы Лукашэнкі, прыйшлі да высновы, што «які поп — такі і прыход». Пры гэтым успомнілі добрым словам ахову старшыні Шушкевіча, якая заўсёды паводзіла сябе вельмі карэктна ў дачыненьні да журналістаў і не супрацівілася іхнай прафэсійнай дзейнасьці.

**Мікола ГРЫНЯВІЦКІ**

# Мэр Бабруйска марыць пра камунізм

**«Я ня бачу іншай сілы, акрамя камуністаў, якая здольная правільна ацаніць сытуацыю ў краіне».**

Так заявіў на прэс-канфэрэнцыі новы старшыня Бабруйскага гарвыканкаму Уладзімер Раманоўскі, які нядаўна быў прызначаны ў «прэзыдэнцкую вэртыкаль». Таварыш Раманоўскі сказаў таксама, што ён вельмі адмоўна ставіцца да прыватызацыі. Мэр паабяцаў, што будзе рабіць усё магчымае, каб замарудзіць яе ў Бабруйску.

**Алесь СЕРДЗЮКОЎ**

# У сіротаў — сірочая доля

**Зусім нядаўна ў Кобрыні — пры ўдзеле чыноўнікаў міністэрства адукацыі — зь вялікай помпаю была адчыненая вёска для дзяцей-сіратаў. Але пасьля ўрачыстага адкрыцьця дзяцей пакінулі на волю лёсу.**

Як даведаўся карэспандэнт СВАБОДЫ, жыхары вёскі засталіся практычна бяз сродкаў для існаваньня — банкаўскі рахунак дзіцячай установы амаль пусты. Праўда, знайшлася арганізацыя — раённы вузел сувязі, — якая зжалілася і пералічыла дзецям 250 тысячаў рублёў. Хоць якія, але ж грошы...

**К.В.**

# Жанчыны пакутуюць ад недаяданьня

**У Слонімскім раёне сьмяротнасьць перавышае нараджальнасьць амаль на 10%. Сярэдняя працягласьць жыцьця гараджан складае 59 гадоў, вяскоўцаў — 68.**

Такую несуцяшальную статыстыку прывёў у сваім дакладзе на апошняй сэсіі райсавету галоўны ўрач Слонімскага раёну Ю.Дэмбскі. Ён таксама адзначыў, што ў мінулым годзе ўзрасла дзіцячая сьмяротнасьць, рэзка павялічылася колькасьць нараджэньня неданошаных дзяцей. Доктар падкрэсьліў, што 80% жанчын у пэрыяд цяжарнасьці пакутуюць ад хваробаў, выкліканых дрэнным харчаваньнем.

**Валодзя ЯНЧУК**

# Сьлед Чарнобыля «засьвяціўся» у Слоніме

**Слонімскі мясакамбінат ледзь не пачаставаў сваіх спажыўцоў на Новы год радыёактыўным мясам.**

Вэтслужба гэтага прадпрыемства выявіла ў пяці ялавічных тушах радыёнукліды. Пакашнікі перавышалі дапушчальныя нормы ў некалькі разоў. Мяса трапіла сюды з калгасу «Перамога» Зэльвенскага раёну. Адпаведныя службы цяпер высьвятляюць, адкуль зьявілася радыёактыўная жывёла ў гэтым раёне, які лічыцца «чыстым».

**Валодзя ЯНЧУК**



© PDF: Kamunikat.org 2010

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

## Калядныя кардоны

**На Калядныя сьвяты на памежных зь Літвою чыгуначных станцыях здарыліся прыкрыя інцыдэнты.**

На ст. Гудагай жанчыны зь дзецьмі нават клаліся на рэйкі і не прапускалі цягнікі ў бок Вільні. На такія скрайнія меры людзі вымушаныя былі пайсьці пасьля таго, як іх павысаджвалі з вагонаў.

Жыхарка Менска Марыя Носава заявіла карэспандэнту СВАБОДЫ, што яна выбралася ў госьці да сяброў у Вільню, даведаўшыся пра рашэньне літоўскіх уладаў увесьці на час Калядных сьвятаў бязьвізавы рэжым. Гэта ёй пацьвердзілі ў Літоўскай амбасадзе ў Менску. Але ў Гудагаі беларускія памежнікі высадзілі палову пасажыраў, адабралі пашпарты і аддалі толькі калі цягнік ужо рушыў на Вільню.

Рэч у тым, што беларускія ўлады ў чарговы раз не падумалі галавою. З 1 студзеня 1995 г. нашае «правіцельства» зноў увяло ў дзеяньне «выязныя» штампы ў пашпартах.

**Анатоль МІРСКІ**

## З узбэкамі дамовіцца цяжка

**Напярэдадні Новага году канфэрэнцыя працоўнага калектыву гарадзенскага прадзільна-ніткавага аб'яднаньня выказала недавер генэральнаму дырэктару Ногцеву.**

Некалькі тысячаў жанчын ня маюць працы: няма бавоўны. Год таму прадстаўнік абласных уладаў езьдзіў у складзе ўрадавай дэлегацыі ва Узбэкістан, каб дамовіцца па сыравіну. Узбэкі паабяцалі, але слова не стрымалі. Сп.Ногцеву не дапамагло нават тое, што Аляксандар Лукашэнка, зьезьдзіўшы ва Узбэкістан, прывёз новыя абяцанкі. Наш першы прэзыдэнт надта ж пахваляўся, што прывёз беларускім жанчынам працу. Але гарадзенкам яе, бадай, ня хопіць, бо Лукашэнка стараўся выканаць наказ працаўніц баранавіцкага бавоўнавага камбіната.

Сп.Ногцеву закідаюць, што ён залішне захапіўся ўладкаваньнем уласных справаў у той час, калі ў рабочых няма працы. Да таго ж ён ня здолеў паразумецца з ангельцамі, якія прапанавалі рэканструяваць прадзільна-ніткавае аб'яднаньне зь яговым састарэлым абсталяваньнем.

**С.М.**

## «Куміра» цягнуць у суд

**5 студзеня суд Савецкага раёну Менска зьбіраўся разгледзець заяву былога міністра абароны П.Казлоўскага аб абароне гонару і годнасьці.**

Аднак адказчык — прэзыдэнт Лукашэнка — у суд не зьявіўся. Справа адкладзеная на няпэўны тэрмін.

**В.П.**

## Грыгор'еў вярнуўся

**На мінулым тыдні адбылася сэсія Віцебскага гарсавету.**

Мэрам абласнога цэнтру абраны былы другі сакратар Віцебскага гаркаму КПБ Міхаіл Грыгор'еў.

**У.С.**

# С.Антончык прапануе склікаць агульнанацыянальны сход



Паважаныя суайчыньнікі!

Адышоў 1994 год, а зь ім і нашыя спадзяваньні на нармальнае чалавечае жыцьцё.

Зьнікае вера ў тое, што прэзыдэнт Лукашэнка выканае перадвыбарчыя абяцаньні — пакончыць з карупцыяй, спыніць інфляцыю, рост цэнаў, запусьціць заводы.

Замест абяцанага пад'ёму ўзроўню жыцьця простых людзей адбылося іхнае імклівае скатваньне да жабрацтва.

Балюча бачыць, што ад палітыкі, якую праводзіць прэзыдэнт, больш за ўсіх пацярпелі тыя, хто з надзеяй галасаваў за яго, — пэнсіянэры і інваліды.

Для многіх з вас, паважаныя суайчыньнікі, ужо сталі зразумелымі прычыны несупадзеньня гучных перадвыбарчых абяцаньняў Лукашэнкі і практычных вынікаў.

Прэзыдэнт Лукашэнка праводзіць тую ж палітыку, што і Кебіч. Гэта нядзіўна, бо яны — прадстаўнікі той самай партыйна-гаспадарчай намэнклятуры. З той жа прычыны ў прэзыдэнцкай камандзе няма прафэсіяналаў з рынкавым мысьленьнем. Яны спэцыялісты толькі ў адным — абяцанках. Іхныя палітычныя папярэднікі шмат чаго нам панаабяцалі — камунізм да 1980 г., рублёвую зону — да 1994 г., кватэру кожнаму — да 2000 г.

Спрабуючы прыхаваць сваю няздольнасьць кіраваць дзяржаваю, тагачасныя і цяперашнія кіраўнікі карыстаюцца выпрабаваным мэтадам: уводзяць цэнзуру — і выбаршчыкі патанаюць у плыні дэзінфармацыі.

Валюнтарызм, прыняцьце сумнеўных рашэньняў, парушэньне Канстытуцыі — гэта сродкі кіраваньня Беларусяй, якімі актыўна карыстаецца каманда прэзыдэнта.

Недарэчнаю выглядае спроба былога дэпутата Лукашэнкі абвінавачваць ва ўсіх грахах сваіх таварышаў па Вярхоўным Савеце. Бо менавіта Лукашэнка разам з бальшынёю Вярхоўнага Савету санкцыянаваў дзеяньні каманды Кебіча, якія прывялі да развалу эканомікі і да карупцыі. Менавіта Лукашэнка і бальшыня Вярхоўнага Савету прагаласавалі за антыканстытуцыйную забарону агульнанароднага рэфэрэндуму аб датэрміновых выбарах. І менавіта гэты Вярхоўны Савет падтрымаў так званую праграму прэзыдэнта па выхадзе з крызысу.

Цяпер мы назіраем тыповыя намэнклятурныя разборкі па перадзеле ўлады.

Відавочна, што глыбокі эканамічны крызыс пры адсутнасьці рэальнай праграмы выхаду зь яго разам з палітычным крызысам, калі намэнклятура, маючы ўсю ўладу, жорстка вядзе барацьбу за сфэры ўплыву, прывядуць да зьнішчэньня дзяржаўнасьці Беларусі.

Такі зыход — трагедыя для грамадзянаў Беларусі. Нас чакае рабскае існаваньне. Лічу, што ў сытуацыі, якая склалася, злачынна спакойна назіраць, што адбываецца. Больш за тое, недапушчальна выкарыстоўваць гэты крызыс для атрыманьня хоць кім палітычных дывідэндаў.

Адчуваючы ўсю адказнасьць перад сваімі выбаршчыкамі, народам Беларусі, я зьвяртаюся да грамадзкасьці з прапановаю правесьці напачатку 1995 г. агульнанацыянальны сход. Я зьвяртаюся да рабочых і служачых, навукоўцаў і прамыслоўцаў, сялянаў і бізнэсмэнаў, журналістаў і творчай інтэлігенцыі — да ўсіх тых, хто разумее ўсю глыбіню небясьпекі, што насоўваецца на Беларусь, і гатовы дапамагчы сваёй Радзіме.

Мэта форуму — кансалідаваць грамадзкасьць і знайсьці шляхі выхаду з крызыснай сытуацыі.

Нам неабходна сказаць праўду прэзыдэнту: калі ён сапраўды хоча праводзіць рэформы, але ня ведае, як гэта зрабіць, — абавязак кожнага грамадзяніна дапамагчы яму. Калі ў прэзыдэнта і ягонай каманды няма добрай волі да канструктыўнага супрацоўніцтва, варта прыняць у адпаведнасьці з Канстытуцыяй рашэньне аб правядзеньні рэфэрэндуму аб даверы прэзыдэнту.

Шаноўныя грамадзяне Беларусі!

Як кожны народ, мы маем права на вартае нас жыцьцё. Мы яго заслужылі сваёй самаахвярнаю працай, сваёй цярплівасьцю, мудрасьцю, дабрынёю і ўсімі выпрабаваньнямі, якія нам выпалі ў мінулым. Жорсткія выпрабаваньні чакаюць нас і цяпер, але я веру, што пераадолеем і іх.

Ад кожнага з нас залежыць, як складзецца наш лёс і лёс нашай Бацькаўшчыны ў будучым.

**Дэпутат Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь, рабочы заводу «БелВАР» С.АНТОНЧЫК**

## Бярыце грошы і займайце чаргу да Ціцянкова

**Прэзыдэнцкі «завхоз» Іван Ціцянкоў атрымаў у «апэратыўнае кіраваньне» 64 будынкі ў цэнтры Менска.**

Гэта сучасныя шматпавярховыя збудаваньні, у якіх прыватныя фірмы лічаць за гонар размясьціць свае офісы. Каму выпадзе шчасьце — будзе вырашаць Іван Ціцянкоў.

Пералік будынкаў зацьвердзіў сваім указам 27 сьнежня прэзыдэнт Лукашэнка.

**Анатоль МІРСКІ**

# Асалям, Аляксандар Рыгоравіч!



Прэзыдэнтава лёгіка на гэты раз спрацавала як мае быць. У супрацьлеглым баку ад варожага нам Захаду сапраўды знаходзіцца Усход. А больш канкрэтна — Узбэкістан, азіяцкая краіна, дзе валадарыць хан Іслам.

Лукашэнка, якога даўно не разумеюць на Захадзе і перастаюць разумець дома, вымушаны шукаць «старых сяброў». Ва Узбэкістане яго прымалі належным чынам менавіта таму, што ён свой, савецкі. Савецкі да самых кончыкаў пазногцяў — і таму поўнасьцю зразумелы.

Гледзячы на здымкі, так і ўяўляеш шчырую гаворку двух савецкіх прэзыдэнтаў. «Ну, таварышч Іслам, — кажа Аляксандар Рыгоравіч Карымаву, — паказвайце, што ў вас там. Так, ваза фарфоравая с партрэтам міня, адна штука. Кавёр саматканый, тожа с партрэтам. Спасіба! Я жа ведзь, знаеце, нішчый. Паэтаму мой народ будзет очань вам благадарэн».

А што — гэты шчасьліва-замілаваны твар ды ўзбэцкая цюбяцейка на галаве першага прэзыдэнта Беларусі — таксама «усур'ёз і надоўга»?

Ну, калі так, дык што ж — асалям, Аляксандар!

**Я.АЛЯКСЕЙКА**



На здымках: А.Лукашэнка атрымлівае падарункі ад І.Карымава падчас нядаўняга афіцыйнага візыту ў Ташкент.





© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

# Няма мяжы — няма сапраўднай дзяржавы

Паважаная рэдакцыя!

Прашу надрукаваць мой ліст, бо гэтая праблема хвалюе вельмі многіх.

Мяне — грамадзяніна Рэспублікі Беларусь — трывожыць той факт, што прэзыдэнт Лукашэнка пакідае межы нашай краіны на ўсходзе і на поўдні зусім неабароненымі. Калі будуюць дом, заўсёды робяць дзьверы. А наш беларускі дом безь дзьвярэй — заходзь хто хоча, ідзі куды хочаш, рабі што хочаш. Няўжо прэзыдэнт не разумее відавочнага: дом павінен быць з моцнымі дзвярыма, праз якія маглі б прайсьці толькі добрыя людзі, а не крымінальныя банды са зброяй у руках.

Нядаўна радыё перадавала, што ў аднаго чалавека ў Дубровенскім раёне міліцыя адабрала кулямёт часоў грамадзянскай вайны і некалькі стрэльбаў. Гэты чалавек, які 50 гадоў хаваў зброю, нікога не зачапіў, — ён «злачынца»? А я думаю так: калі дзяржава ня можа абараніць нас, то мы самі павінны мець магчымасьць у выпадку чаго абараніць сябе і сваю сям'ю ад няпрошаных гасьцей. Няўжо незразумела, што нахлынуць уцекачы з Каўказа са зброяй у руках і будуць з намі, «памяркоўнымі», рабіць што заманецца.

Калі Беларусь сувэрэнная дзяржава, то яна павінна ня проста мець сымбалічную мяжу, але і ахову. Няма мяжы — няма сапраўднай дзяржавы. Гэтая пародыя на дзяржаву падобная на жанчыну, да якой у любы час можа зайсьці любы мужчына. Гэта віна Лукашэнкі, які пакідае свой народ безабаронным. Нам кажуць, што дорага ўтрымліваць памежную ахову. Але ж жыцьцё і бясьпека людзей у даверанай вам, прэзыдэнт Лукашэнка, дзяржаве даражэйшыя за ўсе грошы сьвету.

Калі дзяржава ня мае сілы, жаданьня і магчымасьці ахоўваць дзяржаўную мяжу, тады людзі самі павінны яе ахоўваць.

**Дзьмітрый Мікалаевіч БЕРАЗОЎСКІ**

г.Ворша

# Ад прэзыдэнцкай дапамогі валяцца ў непрытомнасьці

Нядаўна я быў сьведкам, як жанчына-пэнсіянэрка страціла прытомнасьць, стоячы ў чарзе, каб атрымаць «прэзыдэнцкую» дапамогу.

Славуты 200-ты прэзыдэнцкі ўказ нібыта гарантуе матар'яльную падтрымку маламаёмным грамадзянам. Прэзыдэнт сьцьвярджае, што грошы зь дзяржаўнага бюджэту былі пералічаныя ў мясцовыя яшчэ напрыканцы лістапада 1994 г. Але ўрад належным чынам не адрэгуляваў мэханізм іх выдачы. Больш за тое, вялікая частка людзей і дагэтуль не ведае, хто ж мае права на дапамогу і як яе атрымаць.

Сацыяльныя службы мясцовых выканкамаў не спраўляюцца з наплывам людзей. Старыя людзі, стоячы ў чэргах па шматлікія паперкі, ходзячы з кабінэта ў кабінэт, трацяць прытомнасьць проста ў калідорах. Няўжо так цяжка папросту дадаць пэўную суму да іхных пэнсіяў?

Узьнікае і яшчэ адно пытаньне: дзе цяпер «круцяцца» грошы дапамогі? Можа, на іх таксама наклалі крымінальную банкаўскую руку, пра якую паведаміў дэпутат парляманту С.Антончык? У выніку людзі атрымліваюць грошы ўжо добра пакусаныя інфляцыяй.

Па апошніх зьвестках, «прэзыдэнцкую» дапамогу ў Менску атрымала толькі палова маламаёмных грамадзянаў.

**Валеры ГРЫЦУК, дэпутат Першамайскага райсавету г.Менска**

## *Зь ліста ў рэдакцыю*

***«Мы стаім на парозе парляманцкіх выбараў. Тое, што большасьць дэпутацкіх мандатаў у Вярхоўны Савет увесну атрымаюць кандыдаты ад БНФ, няма сумневу. Фронт да выбараў рыхтуецца вельмі і вельмі сур'ёзна. Дый грамадзяне, у тым ліку і афіцэры, схіляюцца да думкі: падтрымаць каманду Пазьняка. Таму што бачаць у ім апошні шанец выхаду Рэспублікі Беларусь з той крызыснай сытуацыі, у якой апынулася краіна».***

**В.ШЧЫТКАВЕЦ, гвардыі падпалкоўнік, начальнік інфармацыйнага цэнтру 5-га артылерыйскага корпусу**

г.Бабруйск

## *З калідораў улады*

*Ідзе Лукашэнка, насустрач яму Пазьняк.*

*— Добры дзень, Аляксандар Рыгоравіч. Як здароўе?*

*— Спасибо, Зенон Станиславович, не дождетесь.*

# Такія вось віншаваньні

Пераднавагодні вечар ва ўсіх людзей, незалежна ад узросту, адукацыі, палітычных поглядаў, выклікае аднолькавыя пачуцьці — сьвяточнасьці, урачыстасьці, радасьці. Падарункаў чакаеш і ад тэлебачаньня, якое ў такі вечар, думаецца, павінна выявіць усе свае здольнасьці.

Якія ж падарункі зрабіла нам роднае Беларускае тэлебачаньне? Выступленьні Бубы Касторскага, Людмілы Гурчанкі. Цікава, канечне, аднак у такі вечар **па свaім** тэлебачаньні хацелася нечага свайго, роднага. Але не занудзілася і прымітыўнага. Апошняя надзея згасла, калі пачаўся тэлеагляд «Беларусь сустракае Новы год», агучаны... па-расейску! Нават у часы імпэрыі да такога цынізму беларускае тэлебачаньне, здаецца, не апускалася.

Ды хутка стала зразумела, адкуль дзьме вецер. На экране — з навагоднімі віншаваньнямі да беларускага народу — зьявіўся наш прэзыдэнт. І што ж мы пачулі? Можа, хоць у такі вечар прэзыдэнт успомніў, якую краіну, які народ ён прадстаўляе? Ды не, усё та ж сумнавядомая «шклоўска-тамбоўская трасянка». Не хацелася ўжо зьвяртаць увагі ні на суровы пракурорскі тон «віншаваньня», ні на зьмест зваротаў да «вецеранаў, жэншчын і маладзёжы». Што ж зробіш, калі так Бог даў... Адно з горыччу думалася: народы ўсіх цывілізаваных краінаў пачулі навагоднія віншаваньні сваіх прэзыдэнтаў на дзяржаўных мовах, і толькі няшчасная Беларусь, як нейкая калёнія, гэтага не дачакалася.

Толькі адно крыху суцяшае: ні я, ні мая сям'я такога прэзыдэнта не выбіралі.

**Яўген САХУТА**

# Недасолены суп таварыша прэзыдэнта

Напачатку я задумваўся, нашто Лукашэнка ў любой аўдыторыі папярэджвае, што «президент Лукашенко — это всерьез и надолго, по крайней мере на 5 лет». Потым мне стала зразумела, што заявы такога кшталту ён робіць толькі з прычыны ўласнай няпэўненасьці. Хто-хто, а сам Лукашэнка дакладна ведае, што ўсё гэта якраз несур'ёзна, «не по Сеньке шапка».

Бо што былі для Лукашэнкі прэзыдэнцкія выбары? Сатысфакцыя абражанасьці. Дэпутата Лукашэнку сьмяротна пакрыўдзіў няўдзячны Кебіч і К°. Выканаўшы іхны заказ — скінуць Шушкевіча, — Лукашэнка за гэта не атрымаў аніякіх лаўраў.

Лукашэнка абурыўся: калі вы так, дык і я таксама паспрабую вылучыцца, мне «цяраць нечава» — ці назад у саўгас вяртацца, ці паспрабаваць стаць першым прэзыдэнтам... Гэта тое самае, што ажаніцца на злосьць бацькам.

І вось, пасьля вельмі азартнага змаганьня, у прэзыдэнцкім фатэлі апынуўся «самы лепшы сацыяльны аратар СНД». Трэба думаць, што лепшы пасьля Жырыноўскага. Бо той таксама слова не пазычае, яго ведае ўвесь сьвет, а ня толькі СНД, хоць ніякі ён не прэзыдэнт...

Але ж, бач ты, Беларусь — не камсамольскі сход, не саўгас «Гарадзец» і нават не пракамуністычны ВС. Выявілася, што чалавек без гістарычнай памяці (а толькі з савецкім гістарычным дыплёмам), які няздольны ўспрымаць Беларусь ужо не савецкую і ў канкрэтнай геапалітычнай сытуацыі, — такі чалавек няздольны стварыць сувэрэнную дзяржаву. Каб іграць на скрыпцы, трэба ведаць ноты або прынамсі мець музычны дар. Чаго ня скажаш пра Лукашэнку.

Маральнага права (у гістарычным, рэлігійным ды кожным іншым сэнсе) быць беларускім прэзыдэнтам такія людзі, як Лукашэнка, ня маюць. Першым сакратаром райкаму або нават ЦК КПБ — калі ласка, а прэзыдэнтам — не. Адсюль — фатальная наканаванасьць ягонага прэзыдэнцтва. Ён спрабуе яшчэ раз пабудаваць на Беларусі БССР, што ня мае ні сэнсу, ні пэрспэктывы.

Якім трэба быць духоўна неразьвітым і несамакрытычным, каб не разумець: ты ня маеш маральнага права на беларускі прэзыдэнцкі пасад, калі публічна грэбуеш нацыянальнымі сьвятамі, атрыбутамі дзяржаўнасьці, увогуле ўсім яскрава беларускім, апроч бульбы і сала. З нашых савецкіх пэдінстытутаў тысячамі выходзілі выпускнікі, якія ня мелі пэдагагічных здольнасьцяў, але ішлі працаваць у школы, выхоўваць дзяцей.

Вынікі мы бачым. Лукашэнка дык і наагул замахнуўся стаць Бацькам нацыі, ня маючы для гэтага ніякіх падставаў і абапіраючыся толькі на ўласныя амбіцыі. Трэба яшчэ мець і за душой нешта, а там — пуста, хіба адно толькі пачуцьцё ўласнай непаўнавартасьці. Кароль голы: Лукашэнку няма чаму навучыць беларускі народ.

Беларусаў ён лічыць рабацягамі, якім абы толькі трыбух набіць, але якія ня маюць права на нешта большае. Вось Лукашэнка ўвесь час гаворыць пра нейкія асаблівыя правы розных «варагаў», якіх процьма панаехала на Беларусь — вайскоўцаў, партсавецкага чынавецтва і г.д. Ім, бачыце, не падабаюцца нашыя дзяржаўныя сьцяг і герб. Значыцца, сымболі трэба памяняць, правесьці рэфэрэндум або прагаласаваць у ВС. Тым самым Лукашэнка, вобразна кажучы, робіць зь Беларусі вялікі гатэль, дзе ў нумарох жывуць капрызьлівыя госьці, якіх абслугоўваюць тутэйшыя лёкаі. Ён, прэзыдэнт, не ўсьведамляе беларускага народу і дзяржавы ў гістарычным і філязофскім сэнсе.

Лукашэнка — ня дойлід, які бачыць яшчэ непабудаваны гмах. Ён — звычайны рабочы-будаўнік, які мысліць зусім канкрэтна: вось — ванна, тут — прыбіральня, а там — радыятар ацяпленьня. Ён бачыць перад сабой кучу цэглы, але не ўяўляе магутнага муру.

У яго атрымліваецца, як у таго Чабурашкі, — «мы строили-строили и наконец построили». Абракадабру. Выступаючы ў Акадэміі навук, ён прызнаўся, што для далейшага стварэньня дзяржаўнасьці нам не хапае дзяржаўнай ідэалёгіі. Вось вы — гісторыкі, філёзафы, маўляў, і дапамажыце. Мабыць, сапраўды сьветлая галава пісала гэты даклад для прэзыдэнта, які дагэтуль яшчэ мысьліць катэгорыямі халоднай вайны (супрацьстаяньне імпэрыялізму і камунізму), адчувае Беларусь у той старой сыстэме палітычных каардынатаў, якой ужо не існуе.

Магчыма, гэтая сьветлая галава растлумачыла Лукашэнку, што Рэспубліка Беларусь — гэта не саўгас, дзе ўсё зразумела: тут кантора, там кароўнік, а там — сялпо. Але кухар, які пахваляўся перад публікай, на кухні разгубіўся. Ён ніколі дагэтуль не варыў суп і ня ведае патрэбных рэцэптаў. Голага папулізму, як на такую паважную справу, выявілася замала. Пачало высьвятляцца, што існуюць агульнаэўрапейскія, несавецкія рэцэпты.

Аднак той чалавек, які пісаў даклад Лукашэнку, не патлумачыў яму адразу, што асноваю любой дзяржаўнай ідэі ёсьць здаровы (амэрыканскі, польскі, нямецкі і г.д.) нацыяналізм, безь якога «суп» будзе несалёны. Але Лукашэнка, мабыць, яшчэ з часоў службы ў памежных войсках КГБ, як той чорт ладану баіцца словаў накшталт «капіталізм», «нацыяналізм», «беларусізацыя». Так што суп наш застаецца несалёным.

Тымчасам сам Лукашэнка ацэньвае свае дзяржаўніцкія якасьці вельмі высока. Дарэчы, любіць гаварыць пра сябе, нібы брытанская каралева, у трэцяй асобе. Або такі ягоны пэрл: «А вы скажите тогда: товарищ президент...» Гэта ўсё адно як «таварыш цар» або «таварыш поп, ксёндз, Папа Рымскі». Бязглуздзіца, карова зь сядлом. А для Лукашэнкі — нармальна.

Такі прэзыдэнт няздольны фармаваць сьвядомасьць нацыі, бо сам несьвядомы. Калі ён езьдзіць па Беларусі, дык звычайна выступае на ўзроўні раённага пракурора, паведамляючы, дзе і чый сын пабудаваў асабняк. У ягонай камандзе таксама ёсьць аматары прамаўляць перад публікай. Але ён — аратар найбольш заўзяты, з багатай мімікай і наборам прыёмаў: то гнеўна бліскае вачыма, то ледзь сьлязу ня пусьціць... А ўся Беларусь мусіць глядзець на гэты аматарскі тэатар аднаго актора.

Не, здаецца мне, што ўсё гэта «неўсурёз і ненадоўга».

**Міхал СТАНЕЎСКІ**



© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

## Калі прэзыдэнт абяцае, чакай наадварот

**У сваім апошнім тэлевыступе прэзыдэнт Лукашэнка паабяцаў, што «будзе газ і будзе сьвятло». Аднак з надыходам халадоў спажываньне прыроднага газу значна павялічылася, а Масква нашыя запасы папоўніць не сьпяшаецца.**

У Гарадзенскай вобласьці ціск у газаправодах спаў амаль удвая. І калі сытуацыя ня зьменіцца, то, як адзначаюць спэцыялісты, магчымае аўтаматычнае адключэньне газаразьмеркавальнага абсталяваньня. Каб гэтага не адбылося, у вобласьці складзены графік адключэньня прадпрыемстваў, якія маюць сыстэму рэзэрвовага цеплазабесьпячэньня. У Ваўкавыскім раёне, напрыклад, адключылі шэраг буйных прадпрыемстваў, у тым ліку аб'яднаньне «Ваўкавыскцэмэнташыфэр» і завод ліцейнага абсталяваньня. Але ж у іх зусім няшмат мазуту...

Тым часам у Магілёве экспэртная камісія прыняла рашэньне спыніць падачу электраэнэргіі на 25 прадпрыемстваў вобласьці. Сярод іх Магілёўская абутковая фабрыка, завод «Чырвоны мэталіст», бабруйскі «Аграмаш» і іншыя. Яны запазычыліся за электраэнэргію 82 млрд. рублёў.

А.Лукашэнка, як вядома, абяцаў да Новага году «запусьціць» усе прадпрыемствы, але атрымліваецца наадварот — яны спыняюцца, бо не могуць зарабіць нават сабе на электрычнасьць.

В.Я.

## Ёсць вэрсія, што шукалі даклад

**За два апошнія тыдні ў Віцебску былі абрабаваныя 8 шапікаў «Саюздруку».**

Работнікі «Саюздруку» выказваюць вэрсію, што, магчыма, такім шляхам некаторыя жыхары Віцебска імкнуліся здабыць вядомы даклад дэпутата Антончыка, надрукаваны ў СВАБОДЗЕ. Маўляў, людзі думалі, што кіяскэры прыхавалі газэту для сваіх знаёмых.

Валодзя ЯНЧУК

Вы любіце СВАБОДУ, маеце вольны час і хочаце крыху зарабіць?

Наша газэта можа заключыць з Вамі дамову на распаўсюджваньне СВАБОДЫ.

Тэлефануйце ў рэдакцыю:

36-24-41

## Даруй яму, Божа!

**У суботу, 7 студзеня, прэзыдэнт Лукашэнка прыйшоў у менскі Сьвятадухаўскі Катэдральны сабор на сьвяточнае набажэнства Нараджэньня Хрыстова, якое служыў мітрапаліт Філарэт.**

Вернікаў вельмі зьдзівіла, што прэзыдэнт ня хрысьціцца, як усе. Але затое ўразіла, калі Лукашэнка выйшаў на амбон(!) і пачаў адтуль прамаўляць. Выдаў, напрыклад, такія пэрлы: «Символично, что наша страна отмечает этот праздник в начале года...», «мы, президент и его правительство...», «Ваше Высокопреосвященство! Дайте общественности духовность. Остальное мы дадим сами»...

А ўвечары за сьвяточным сталом у Эпархіяльнай управе Лукашэнка зноў узяў слова: «Я скажу тост, который говорю уже третий раз в этом году. Я предлагаю выпить за женщин!», — заявіў прэзыдэнт на сьвята Божага Нараджэньня.

«Господи! Прости ему», — ціха сказала адна з прысутных жанчынаў.

Іван СІДАР

## Навагодняе «ура!» у Станькаве

**У навагоднюю ноч у вайсковым гарадку Станькава Дзяржынскага раёну назіралі цікавае відовішча.**

Падпітая публіка вывалiла з дамоў на вуліцу і маршыравала па гарадку з крыкамі: «Да здравствует всенародно избранный главнокомандующий!»

С.Л.

## 17 гадзінаў у чарзе

**Жыхарка Магілёва Галіна Фірсава, шматдзетная маці, кавалер ордэна Працоўнага Чырвонага Сьцяга, прастаяла ў выканкаме 17 гадзінаў у чарзе, каб атрымаць «прэзыдэнцкую» фінансавую дапамогу.**

Папярэдне ёй давялося сабраць процьму розных даведак. Але дапамогу яна ўсё ж атрымала — 65 тысяч рублёў.

Натальля РОСЛАВА

## «У вас тэмпэратура ёсьць?»

### Прэзыдэнт хадзіў глядзець, як нараджаюць жанчыны

**У переднавагодні вечар 31 сьнежня А.Лукашэнка наведаў раддом, што пры 9-й менскай клініцы.**

Работнікі раддому паведамілі карэспандэнту СВАБОДЫ цікавыя падрабязнасьці. Прэзыдэнту захацелася паглядзець, як раджаюць жанчыны, але на той час ужо ўсе кабеты нарадзілі. Тады Лукашэнка вырашыў зрабіць абход па палатах. Ён з сур'ёзным выглядам пытаўся ў парадзіх: «У вас температура есть? Нет? Тогда что вы здесь делаете?»

Дзяжурны доктар спрабаваў быў патлумачыць, што гэта вельмі спэцыфічнае аддзяленьне з асаблівым санітарным рэжымам і што прэзыдэнт і ягоная сьвіта не адпавядаюць правілам асэптыкі, на што Лукашэнка ўпэўнена і з годнасьцю адказаў: «Ну почему же? Я сегодня мылся в душе!»

На разьвітаньне госьці пакінулі навагодні прэзэнт — дзьве пляшкі шампанскага.

М.Н.

## Дактары «садзілі на іголку»

**У Наваполацку аддзелам па барацьбе з арганізаванай злачыннасьцю затрыманыя тры ўрачы, якія выпісвалі рэцэпты на наркатычныя прэпараты.**

Праверка гарадзкіх аптэкаў выявіла больш за 250 рэцэптаў, выпісаных на фіктыўныя прозьвішчы. Гэтыя прэпараты атрымлівалі наркаманы. Сьледчыя органы ведаюць яшчэ аднаго мэдработніка, які займаўся гэткай жа «дабрачыннай» дзейнасьцю. Ад затрыманьня і суда яго выратавала сумная акалічнасьць — сьмерць.

Тамаш ГУРБА

## Самы стары вежавы гадзіньнік

**Гарадзкія ўлады Горадні вырашылі адрэстаўраваць вежавы гадзіньнік XVII ст., які знаходзіцца на левай званіцы Фарнага касьцёла.**

Гарвыканкам будзе хадайнічаць, каб гадзіньніку надалі статус помніка. Распрацаваны плян аднаўленьня. Ужо правялі інжынэрнае дасьледаваньне і канструяваньне мэханізму бою. Гарадзенскі каваль Юрый Мацко ўзяўся выкаваць страчаныя часткі гадзіньніка. Дасьледаваньнем і канструяваньнем, а таксама зборкаю і рэгуляваньнем усяго мэханізму займаюцца Юрыя Платонаў і Віктар Іваноў з майстэрні па рамонце гадзіньнікаў у Эрмітажы ў Санкт-Пецярбургу. Яны даўно займаюцца старымі вежавымі гадзіньнікамі і ўжо здолелі адрэстаўраваць некалькі.

У гутарцы з карэспандэнтам СВАБОДЫ майстры адзначылі, што гарадзенскі гадзіньнік — адзін зь першых у Эўропе з маятнікавым мэханізмам. На былой савецкай тэрыторыі ёсьць яшчэ толькі два падобныя вежавыя гадзіньнікі — у Расеі (Валагодзкая вобласьць) і ў 150-ці км ад Горадні — у жаночым кляштары каля Каўнаса. Дарэчы, каўнаскі гадзіньнік ня ходзіць. Што датычыць гарадзенскага, раней яму спрабавалі вярнуць жыцьцё пры дапамозе электрапрыводнага мэханізма. Аднак вежавы гадзіньнік Фарнага касьцёла будзе адноўлены менавіта такім, якім ён паказваў час жыхарам Горадні ў XVII ст. Заводзіць мэханізм і даглядаць гадзіньнік будзе спэцыяльны наглядчык.

С.А.

## У Парыжы дбаюць пра Каложу

**Гарадзенскі мэр Генрых Крупенка накіраваў ліст галоўнаму архітэктару гістарычных помнікаў Францыі Мішэлю Янцэну.**

Француская архітэктара запрасілі наведаць Горадню ў канцы студзеня. Ён дапамажа вызначыць, як стварыць найлепшы праект рэстаўрацыі Каложы — гарадзенскага помніка архітэктуры XII стагодзьдзя. Разам са сп.Янцэнам прыедуць зь Ліможа кіраўнікі вядомай рэстаўрацыйнай фірмы «Бляншон», якая гатовая ажыцьцявіць рэстаўрацыю Каложскай царквы.

Фірма «Бляншон» запрасіла на гастролі ў Францыю гарадзенскую капэлю Тызэнгаўза. Капэля выступіць на францускім тэлебачаньні і наведае сем гарадоў з канцэртамі. Атрыманыя сродкі пойдуць на рэстаўрацыю Каложы. Далучыцца да збору ахвяраваньняў таксама праваслаўная царква Францыі.

С.А.

## Крэматорый нам не патрэбны

**Гарадзенцы сталі часьцей паміраць.**

Калі раней штодзень хавалі 7 нябожчыкаў, дык цяпер — 10—14. Дзеля гэтага ў горадзе падрыхтавалі пад могілкі два новыя пляцы. Дарэчы, як і цяперашнія камунальныя могілкі, яны будуць знаходзіцца ў санітарнай зоне хімічнага гіганту — вытворчага аб'яднаньня «Азот».

Начальнік абласной камунальнай службы сп.Рысік лічыць, што, хоць нябожчыкаў большае, крэматорый ў Горадні будаваць ня станаць: трупаспаленьне нібыта не адпавядае хрысьціянскай, а тым больш праваслаўнай традыцыі. На жаль, нашае начальства ня ведае, што крэмацыя шырока распаўсюджаная ў значна больш хрысьціянскай за нас Заходняй Эўропе. Зямля там каштуе дорага, але нябожчыкаў шануюць і могілкі разьмяшчаюць у прыгожых месцах, а не ў санітарных зонах прамысловых гігантаў.

Алесь КУДРАВЕЦ

## Людзі глядзелі, як коні гарэлі

**У мястэчку Ракаў Валожынскага раёну згарэла калгасная канюшня.**

Шмат людзей зьбеглася паглядзець на пажар, але ніхто не даўмеўся адчыніць дзьверы. Таму разам з канюшняй згарэла амаль 30 коней — калгасныя, некалькі фэрмэрскіх і трое пародных коней дырэктара менскага гандлёвага цэнтру «Вільнюс» (ён мае пад Ракавам лецішча). Настроеньня супраць «жуликов и коммерсантов», людзі ня надта шкадавалі дырэктаравых прыгажуноў, бо коні, на іхнюю думку, таксама былі «мафіёзныя». Хаця ў чым жа коні вінаватыя?

А потым разьюшаны натоўп вырашыў укінуць інваліда-вартаўніка (кажуць, ён добры п'янтос) у полымя, але, відаць, адумаўшыся перад Нараджэньнем Хрыстовым, людзі вырашылі ад «суда Лінча» адмовіцца.

Барбара Р.


**Таньней набыў — хутчэй прадаў**

**гуртам і нядорага**

Афіцыйны прадстаўнік кампаніі Venture Impex у Рэспубліцы Беларусь ЗАТ "Вэрдзі"

Менск, вул. В.Харужай, 29, оф. 116 (11 паверх)

**тэл/факс 344-355**

**Запрашаем да супрацоўніцтва рэгіянальных дыстрыб'ютараў**

**Фірма «Агул»**

**Прапануе прадпрыемствам і арганізацыям свае паслугі ў пуска-наладчых работах:**

- Пуск-наладка вэнтсыстэмаў на праектныя расходы паветра.
- Санітарна-тэхнічнае абсьледаваньне вэнтвыкідаў.
- Вызначэньне нормаў гранічна дапушчальных выкідаў і кантролю ГДК.
- Выпрабаваньне і наладка пылагазалавільных установак.
- Складаньне экалягічных пашпартаў.

*На ўсе віды работ ёсьць ліцэнзіі.*

220131, Беларусь, Менск, п/с 417

Тэл. (0172) 35-08-70


Падпісны індэкс 63887. Нумар падпісаны ў друк 10.1.95. Замова © СВАБОДА Спасылка на газэту СВАБОДА абавязковая Наклад 60 000

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12



© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010